МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ «ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

№10 (35) КАСТРЫЧНІК 2004

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



БЮЛЕТЭНЬ ІНФАРМАЦЫЙНАГА ЦЭНТРА

## БЕЛАРУСКАЕ ПЫТАННЕ Ў ПОЛЬШЧЫ

***

У Беластоку разгараецца скандал, звязаны з абвінавачаннем сяброў Праграмнай рады газеты "Ніва". Аніхто з пяці абвінавачваемых, а гэта аўтарытэтныя і шырока вядомыя не толькі ў Польшчы грамадскія дзеячы, сваёй віны не прызналі. Яны сцвярджаюць, што прад'яўленыя абвінавачанні з'яўляюцца добра спланаванай правакацыяй з мэтай выключыць беларусаў з грамадскага і палітычнага жыцця Польшчы. У падтрымку сяброў з Беластока выступілі дзесяткі грамадскіх арганізацыяў з усяго свету. Акрамя таго, у Беларусі пачаўся збор подпісаў з патрабаваннем не дапусціць расправы над беларускімі інтэлігентамі Польшчы. Між тым, артыкул, які інкрымінуецца дзеячам беларускага руху на Беласточчыне, прадугледжвае пакаранне ад двух да васьмі гадоў пазбаўлення волі. Іх фотаздымкі змешчаныя ў крымінальную картатэку.

*pahonia.promedia.by*

***

Пры канцы верасня членаў Управы Праграмнай рады тыднёвіка "Ніва" абвінавацілі ў парушэнні закону аб рахункаводстве. Выглядае гэта так, што сябры Управы вінаватыя ў тым, што бухгалтарка не запоўніла ці дрэнна запоўніла нейкія дакументы. Калі пачалася акцыя Найвышэйшай кантрольнай палаты ў рэдакцыі "Нівы", вядома было, што шукаюцца падставы для нейкага скандалу. Удар па "Ніве" быў дасканала запланаваны.

Пасля абвяшчэння вынікаў перапісу насельніцтва 2002 г., польскія патрыёты Беласточчыны прыйшлі да вываду, што працэс асіміляцыі беларусаў моцна прытармазіўся і трэба яму паспрыяць адміністрацыйна-рэпрэсіўнымі метадамі.

Другая атака пайшла на школы, у якіх як прадмет вывучаецца беларуская мова. Функцыянеры патрабавалі ад дырэктараў школаў дэкларацый ад бацькоў, якія хочуць, каб іх дзеці вывучалі родную мову. Дэкларацыямі вельмі паспяхова знішчалася беларускае школьніцтва ў міжваенны перыяд і сямідзесятыя гады. Сёння выглядае на тое, што пачынаюць выкарыстоўваць гэты праверaны метад для змагання з рэшткамі беларускага школьніцтва.

Абвінавачанне сяброў Управы Праграмнай рады – гэта своеасаблівая інфармацыя для ўсіх актыўных беларусаў. Ведаюць, што ўсё ў адносінах да беларусаў можна рабіць бяскарна, ніхто не будзе абараняць нашых інтарэсаў, а мы настолькі дэінтэграваныя, што не можам нават пратэставаць супраць адкрытай дыскрымінацыі. А прытым як нейкае правіла дзейнічае закон, што калі толькі пачынаецца змаганне з беларускім рухам на Беларусі, з невялікім спазненнем такі працэс наступае ў Польшчы. Так было ў трыццатыя і сямідзесятыя гады XX стагоддзя.

Найгоршае стане тады, калі польскія нацыяналісты здолеюць запалохаць тых беларусаў, якія праяўлялі волю. Магчыма, стануць нас абвінавачваць у нацыяналізме, сепаратызме, тэрарызме ці невядома яшчэ ў якіх злачынствах. Спробы прадстаўнікоў дзяржаўных установаў – Найвышэйшай кантрольнай палаты і пракуратуры – зрабіць злачынцамі выдаўцоў "Нівы" паказваюць, што ў Польшчы магчыма ўсё.

*Паводле Яўгена Мірановіча, "Ніва". 2004. 10 кастр.*

***

Польскія беларусы расчараваныя вынікамі разгляду ў другім чытанні праекта закона аб нацыянальных і этнічных меншасцях ды рэгіянальных мовах. Упершыню праект быў прадстаўлены Сойму ў лютым 2002 г. Пасля разгляду ў першым чытанні Сойм яго не прыняў. Другое чытанне сёлета таксама не было плённым: 23 верасня Сойм зноў даслаў праект на дапрацоўку ў камісіі.

Паводле праекта, у пэўных гмінах (сельсаветах) мовы мяншыняў могуць атрымаць статус «дапаможных», г.зн. будзе дазволена выкарыстанне мовы меншасці ва ўстановах, а таксама выкарыстанне назваў вуліц ці мясцінаў на мове меншасці, дзе падчас перапісу насельніцтва больш за 8% заявілі аб сваёй прыналежнасці да пэўнай меншасці. Польскія правыя хочуць падняць гэтую лічбу аж да 50%, што робіць шанцы беларускай мовы мінімальнымі.

З рэзкай крытыкай рашэння Сойму выступіла беластоцкая «Ніва». Прыкрае рашэнне супала з перадачай у пракуратуру справы аб быццам бы нямэтавым выкарыстанні грошай Праграмнай радай газеты. На мінулым тыдні паліцыя ўзяла адбіткі пальцаў усіх сяброў управы «Нівы». «Ніўцы» звязваюць гэта з спробамі польскіх спецслужбаў дыскрэдытаваць беларускі рух.

*"Наша ніва". 2004. 8 кастр.*

### Заява Управы МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" выказвае глыбокую заклапочанасць і трывогу ў сувязі з падзеямі, якія могуць прывесці да закрыцця аднаго з самых аўтарытэтных сярод беларускіх нацыянальна-культурных выданняў – тыднёвіка беларусаў Польшчы "Ніва" – у выніку не прадуманых адміністрацыйных захадаў з боку пэўных афіцыйных структур у Рэспубліцы Польшча.

Газета "Ніва" паўстала ў 1956 г. у Беластоку і стала адметным сімвалам, адмысловым цэнтрам у пашырэнні беларускага друкаванага слова сярод беларускага грамадства ў Польшчы. Неацэнная яе роля ў падтрымцы беларускага школьніцтва, у фарміраванні ў моладзі светапогляду, заснаванага на грамадзянскім патрыятызме, павазе да краіны пражывання і любові да этнічнай культуры, зямлі продкаў.

Ва ўціску на тыднёвік "Ніва" бачыцца трывожны сімптом і рэцыдыў таталітарнай палітыкі 1970-х гадоў, калі частка беларускіх адукацыйных установаў у Польшчы была папросту скасаваная, а беларускае пісьменства, мова і школьніцтва апынуліся на мяжы знікнення.

У той час, як увесь свет сёння салідарызуецца з нацыянальна-дэмакратычнымі інстытутамі ў Беларусі і беларускімі супольнасцямі ў іншых краінах, якія вядуць няпростае змаганне за пабудову ў Рэспубліцы Беларусь сапраўды дэмакратычнага грамадства і вяртанне дзяржавы ў еўрапейскую цывілізацыйную прастору (згадаем "Акт падтрымкі дэмакратыі ў Беларусі", адпаведныя заявы афіцыйных структур Еўразвязу) пазіцыя польскіх уладаў выглядае не зусім адэкватнай, як для краіны нядаўна прынятай у Еўразвяз. Відавочна, што вымушанае спыненне выхаду тыднёвіка "Ніва" паслабіць не толькі беларускую нацыянальную супольнасць у Польшчы, але і ў самой Рэспубліцы Беларусь негатыўным чынам адаб'ецца на працэсе дэмакратызацыі і нацыянальнага адраджэння.

Закрыццё газеты "Ніва" і ціск на беларускую нацыянальную меншасць Польшчы фактычна з'яўляецца парушэннем Рамачнай канвенцыі аб ахове нацыянальных меншасцяў, якая была прынятая Радай Еўропы ў 1995 г. і якую Польшча ратыфікавала ў 2000 г.

МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", выказваючы думку шырокай беларускай грамадскасці ў свеце, спадзяецца, што беларуская меншасць у Польшчы будзе мець права на сваё нацыянальнае выяўленне, а сітуацыя з тыднёвікам "Ніва" – вынік непаразумення і становішча будзе выпраўлена на карысць далейшага выхаду

і дзяржаўнага спрыяння выданню газеты "Ніва" з боку Польшчы.

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*
*12.10.2004*

## Заява

Як нам стала вядома, улады Беласточчыны пачалі справу супраць тыднёвіка „Ніва" — адзінага ў Польшчы на беларускай мове, які карыстаецца вялікай папулярнасцю сярод беларусаў усяго свету.

Пад маскай бухгалтарскай праверкі і іншых форм ціску ідзе акцыя па ліквідацыі не толькі тыднёвіка „Ніва", але і беларускага школьніцтва, якое яшчэ захавалася на Беласточчыне, хаця беларускімі школамі іх можна назваць толькі ўмоўна, бо адзіны беларускі прадмет, які захаваўся, — гэта пару гадзін на тыдзень беларускай мовы.

Як усё гэта нагадвае сумныя міжваенныя часы, калі польскімі ўладамі ў Заходняй Беларусі была зліквідаваная ўся беларуская культурная дзейнасць. З сямі беларускіх гімназіяў у 1939 годзе засталася адна гімназія ў Вільні, і тая была далучана да польскай. Не засталося ніводнай беларускай сярэдняй ці пачатковай школы, а беларусы лічыліся грамадзянамі другой катэгорыі.

Мы верым, што Польшча, якая актыўна выступае супраць антыдэмакратычнага рэжыму ў Беларусі, у новай гісторыі будзе больш спрыяльна ставіцца да беларусаў-аўтахтонаў, пражываючых на Беласточчыне.

*Рада Таварыства беларускай культуры ў Літве і Таварыства беларускай мовы Віленскага краю.*
*7 кастрычніка 2004 года*

## Заява

З трывогай і хваляваннем беларусы, аб'яднаныя ў Латвійскае таварыства беларускай культуры "Сьвітанак", успрымаюць сітуацыю, якая ў апошні час складваецца вакол тыднёвіка беларусаў Польшчы "Ніва", у прыватнасці, і вакол беларускіх грамадскіх арганізацый Польшчы наогул.

Лічым патрэбным адзначыць, што ў апошні час тыднёвік беларусаў Польшчы "Ніва" набывае ўсё большую вагу не толькі ў мясцовай інфармацыйнай прасторы Беластоцкага рэгіёну Польшчы. Расце аўтарытэт выдання як у беларусаў Латвіі, так і ўсяго Балтыйскага рэгіёну. Для нас тыднёвік "Ніва" – гэта не толькі крыніца інфармацыі аб жыцці беларусаў у суседняй з намі краіне Еўразвязу, але і рэальная магчымасць ліквідацыі інфармацыйнай ізаляванасці ў асвятленні жыцця часткі беларускай дыяспары дэмакратычнага накірунку ў краінах, якія сёлета ўступілі ў Еўразвяз. Таму такую вялікую заклапочанасць выклікаюць у нас падзеі, якія зараз разгортваюцца ў Польшчы. Лічым неабходным выказаць сваю падтрымку Праграмнай радзе газеты "Ніва" і далучыць свой голас у абарону адзінага беларускага штотыднёвіка ў краінах ЕС і адзінага друкаванага сродку масавай інфармацыі, які маюць магчымасць рэгулярна атрымліваць беларусы Балтыйскага рэгіёну.

У сваю чаргу мы верым, што разглядаючы справу тыднёвіка "Ніва", польскія ўлады будуць кіравацца перш за ўсё дэмакратычнымі прынцыпамі, якія гарантуюць роўныя правы ўсім сваім грамадзянам, незалежна ад іх этнічнай прыналежнасці. Гэта дае нам надзею спадзявацца, што "Ніву" не напаткае лёс загубленых беларускамоўных газет і яшчэ доўгі час газета будзе чаканым госцем і крыніцай аб'ектыўнай інфармацыі не толькі ў сем'ях беларусаў Польшчы, але і за яе межамі.

*Рада Латвійскага таварыства беларускай культуры "Сьвітанак"*
*Рыга. 13.10.04*

## Заява

У апошні час з непакоем наглядаем за зменай польскай палітыкі ў адносінах да беларусаў у Польшчы. Праверкі праведзеныя Найвышэйшай кантрольнай палатай у рэдакцыі штотыднёвіка „Ніва" і ў школах, у якіх навучаецца беларуская мова, выклікаюць уражанне запланаванай расправы з цэнтрамі нацыянальнага жыцця беларускай нацыянальнай меншасці.

Абвінавачанне Раённай Пракуратурай Беласток-Поўдзень Управы Праграмнай Рады Тыднёвіка „Ніва" ўспрымаем як форму запалохвання беларускай грамадскасці, каб тая баялася ўключацца ў любую публічную дзейнасць. Прадстаўнікі польскіх улад і ўстаноў даюць беларусам перад выбарамі выразны сігнал, што распараджаюцца сродкамі і адпаведна падрыхтаванымі кадрамі, здольнымі кожнага грамадзяніна, які праяўляе незалежную думку, бяскарна прыніжаць, абвінавачваць, выкарыстоўваючы багаты набор рэпрэсіўных сродкаў, якія прымяняліся ў мінулых дзесяцігоддзях.

Пашырэнне дзеянняў супраць беларускага руху стала заўважальным пасля абнародавання вынікаў усеагульнага перапісу насельніцтва ад 2002 года, які паказаў існаванне амаль 50-тысячнай неапалячанай грамадскасці.

Упершыню ад сямідзесятых гадоў пастаноўлена з такой рашучасцю выкарыстаць дзяржаўны апарат для абмежавання беларускага нацыянальнага жыцця.

Гістарычны вопыт паказвае, што заўсёды, калі пачынаўся пераслед беларускага руху на Беларусі, неадкладна падобны палітычны працэс у адносінах да беларускай меншасці ініцыяваўся ў Польшчы. З прыкрасцю сцвярджаем, што нават далучэнне Польшчы да Еўрапейскага Саюзу не змяніла гэтую традыцыю.

Асацыяцыя Беларускіх Журналістаў салідарызуецца з сябрамі з Праграмнай рады тыднёвіка беларусаў у Польшчы „Ніва" і пратэстуе супраць метадаў, якія прымяняюцца адміністрацыяй у адносінах да іх.

*Асацыяцыя Беларускіх Журналістаў*
*Беласток, 29 верасня 2004 г.*

*У падтрымку беларусаў Польшчы таксама прынятыя заявы Управы Партыі Беларускага Народнага Фронту (Беларусь), Каардынацыйнай Рады Дэмакратычнага Форуму Беларусаў Еўропы (Чэхія), Рады Федэральнай Рады Беларускіх Арганізацый у Аўстраліі, Саюзу беларускіх пісьменнікаў (Беларусь), Маладога Фронту (Беларусь).*

**Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" звяртаецца да ўсіх, каму не абыякавы лёс беларусаў Беласточчыны, выказаць салідарнасць нашым суродзічам у Польшчы – накіраваць адпаведныя Звароты на беларускай і польскай мовах у польскія структуры, на беларускай і англійскай – у структуры Еўразвязу, копіі лістоў на беларускай мове даслаць на адрас тыднёвіка Ніва redakcja@niva.iig.pl , факс + 48 85 743 50 22. Ніжэй падаем адрасы для дасылкі.**

***Jozef Oleksy***
*Marszalek Sejmu*
Kancelarja Sejmu
Ul. Wiejska 4/6/8
00-902 Warszawa, Polska
**E-mail:** Jozef.Oleksy@sejm.pl

***Aleksander Kwasniewski***
*Prezydent Rzeczypospolitej Polskiej*
Kancelaria Prezydenta RP
Ul.Wiejska 10, 00-902 Warszawa, Polska
**E-mail:** listy@prezydent.pl

***Lodzimierz Cimoszewicz***
Minister spraw zagranicznych
Ministerstwo spraw zagranicznych
Al.J.Ch.Szucha 23
00-580 Warszawa, Polska
**E-mail:** sm@msz.gov.pl

***Rolf Ekeus***
*the OSCE High Commissioner on National Minorities*
OSCE High Commissioner on National Minorities
P.O. Box 20062, 2500 EB The Hague, Netherlands
**E-mail:** hcnm@hcnm.org

***Alvaro Gil-Robles***
*Commissioner for Human Rights of the Council of Europe*
The Office of the Commissioner for Human Rights
Council of Europe
F-67075 STRASBOURG CEDEX
Belgium
**E-mail:**
commissioner.humanrights@coe.int

***Louise Arbour***
*High Commissioner for Human Rights Petitions Team*
Office of the High Commissioner for Human Rights
United Nations Office at Geneva
1211 Geneva 10, Switzerland
**E-mail:** tb-petitions@ohchr.org

***

Па афіцыйных дадзеных больш як 89% выбаршчыкаў узялі ўдзел у галасаванні на парламенцкіх выбарах і рэспубліканскім рэферэндуме. Такая вялікая колькасць удзельнікаў дазволіла прэзідэнту Беларусі атрымаць станоўчы адказ на вынесенае ім пытанне, а таксама амаль цалкам сфарміраваць Палату прадстаўнікоў, не выбранымі ў якую засталіся толькі тры чалавекі. За змяненне Канстытуцыі выказаліся 77,3% выбаршчыкаў. Найменшую падтрымку А. Лукашэнка атрымаў у Мінску і Брэсцкай вобласці — 61,3 і 75,7% адпаведна, найбольш ую — у Магілёўскай (88,8%) і Гродзенскай (82,2%) абласцях. У Віцебскай вобласці за змяненні прагаласавалі 80,1%, Гомельскай — 83, Мінскай — 75,5% выбаршчыкаў.

***

Балтыйская служба Інстытуту Гэлапа абнародавала мемарандум з асноўнымі вынікамі апытання грамадскай думкі. Апытанне праводзілася ў Беларусі з 15 па 17 кастрычніка. У мемарандуме гаворыцца, што 48,4% зарэгістраваных выбаршчыкаў у Беларусі прагаласавалі на рэферэндуме за прапанаваную папраўку ў Канстытуцыю.

***

Кіраўніца доўгатэрміновых назіральнікаў ад АБСЕ амбасадарка Одры Главэр паўтарыла заяву намесніцы старшыні ПА АБСЭ Тунэ Тынгсгорд пра тое, што беларускія выбары значна не адпавядалі рэкамендацыям Арганізацыі бяспекі і супрацоўніцтва ў Еўропе.

***

Прадстаўнік Дзярждэпартаменту ЗША Рычард Баўчэр выступіў у Вашынгтоне з заявай адносна выбараў і рэферэндуму ў Беларусі: "Мяркуючы па пастаянных і сур'ёзных парушэннях правоў чалавека і прынцыпаў дэмакратыі, мы выказваем сур'ёзны сумнеў, што выбары ў Беларусі будуць адпавядаць міжнародным дэмакратычным стандартам".

***

Камітэт за свабодную Беларусь, у склад якога ўваходзіць шэраг дэпутатаў Еўрапейскага парламенту і былы прэзідэнт Чэхіі Вацлаў Гавел, выказаў глыбокае абурэнне маніпуляцыямі ды фальсіфікацыяй вынікаў рэферэндуму аб змене Канстытуцыі, а таксама парламенцкіх выбараў у Беларусі.

***

Міністэрства замежных спраў Расейскай Федэрацыі ўхваліла афіцыйныя вынікі выбараў і рэферэндуму ў Беларусі. "Увогуле, на наш погляд, вынікі выбарчай кампаніі ў Беларусі адлюстравалі зрэз грамадскай думкі ў рэспубліцы. Можна сказаць, што яна прайшла спакойна і празрыста, што, несумненна, з'яўляецца важным чыннікам з пункту гледжання развіцця дэмакратычных інстытутаў у гэтай краіне і ўмацавання асноваў грамадзянскай супольнасці," – заявіў афіцыйны прадстаўнік МЗС Расіі Аляксандр Якавенка.

## АКЦЫІ ПРАТЭСТУ

### Брусель, Бельгія

У Брусселі 17 кастрычніка новастворная арганізацыя "Беларуская Унія" наладзіла пікет каля амбасады Беларусі – у ім узялі ўдзел каля 20 чалавек. Пазней адбылося шэсце, арганізаванае Беларускім Цэнтрам і прадстаўнікамі Еўрапейскай каліцыі "Свабодная Беларусь".

*"Свабода". 2004. 17 кастр.*

### Берлін, Германія

У Берліне 17 кастрычніка прайшла акцыя "За Беларусь. Не – змене канстытуцыі". Да пікету далучылася група студэнтаў ЕГУ – Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэту, якія пасля закрыцця ўніверсітэту зараз вучацца ў Нямеччыне.

*www.belarusy.com*

### Гаага, Галандыя

18 кастрычніка ў галандскай Гаазе адбылася акцыя Звязу Беларусаў Галандыі пры падтрымцы беларусаў Бельгіі. Мерапрыемства пачалося каля Міжнароднага трыбуналу. Потым акцыя працягнулася каля Палацу Міру і скончылася каля беларускага консульства. Удзельнікі акцыі раздавалі чыноўнікам міжнародных структураў і мінакам тэксты рэзалюцыяў ПАРЭ, кнігі «Мы хочам ведаць праўду» і ўлёткі.

*razam.org*

### Варшава, Польшча

17 кастрычніка каля 100 чалавек сабраліся каля беларускай амбасады ў Варшаве з акцыяй пратэсту. На пачатку акцыі адбыўся перфоманс: «Выбары ў Беларусі». У акцыі прынялі ўдзел: Звяз на карысць дэмакратыі ў Беларусі, а таксама польскія маладзёвыя арганізацыі: Млоде Центрум, Млодзі Демокраці, Зялёныя, ДЖЭФ.

Перад шматлікай прысутнай на акцыі прэсай была зачытана супольная заява вышэй пералічаных арганізацыяў.

*www.charter97.org*

### Масква, Расія

10 кастрычніка ў Маскве беларуская моладзь, якая навучаецца ў расійскіх ВНУ, арганізавала пікет супраць рэферэндуму ў Беларусі. Асаблівасць падзеі ў тым, што гэтую акцыю пратэсту наладзіла частка сяброў новай маладзёвай арганізацыі, якая зараз ствараецца ў Маскве па ініцыятыве беларускай амбасады. Вядома, што зараз паўсюдна ў замежжы беларускія дыпламатычныя прадстаўніцтвы актыўна займаюцца кантактамі з мясцовай дыяспарай. У гэтым накірунку працуе і беларуская амбасада ў Маскве. Увесну па ініцыятыве амбасады быў скліканы сход беларускіх студэнтаў, што навучаюцца ў Маскве, – з мэтаю стварэння Зямляцтва беларускіх студэнтаў. Сама па сабе ідэя спадабалася моладзі, тым больш, што на чужыне маладыя людзі патрабуюць кантактаў з суродзічамі, і амбасада прапанавала арганізацыйную дапамогу. Моладзь пачала знаёміцца між сабою, сустракацца і абмяркоўваць агульныя праблемы.

*"Свабода". 2004. 13 кастр.*

**У той жа час** прадстаўнікі расійскай моладзі правялі ў Маскве ля амбасады Беларусі пікет у падтрымку рэферэндуму. Яго арганізатарам выступіў Расійскі камуністычны саюз моладзі. Паколькі пікет не быў санкцыянаваны мясцовымі ўладамі, некалькіх яго ўдзельнікаў затрымалі прадстаўнікі маскоўскіх праваахоўных органаў.

*www.embassybel.ru*

### Прага, Чэхія

Акцыю пратэсту каля беларускай амбасады ў Празе супраць рэферэндуму ў Беларусі ладзілі беларусы Чэхіі. У ёй прынялі ўдзел больш за паўсотні чалавек. Тут сабралася даволі вялікая беларуская грамада – гэта беларускія палітычныя ўцекачы, гэта тыя беларусы, хто жыве і працуе ў Празе, а таксама сябры-чэхі.

На будынку амбасады вісіць аб'ява пра тое, што там знаходзіцца выбарчы ўчастак, нумар ягоны пазначаны – 691. З пачатку пікета з 10.00 раніцы ніхто з беларусаў з Чэхіі не прыходзіў галасаваць, тут не бачылі ніводнага выбаршчыка.

Беларусаў прыйшлі падтрымаць таксама сябры-украінцы.

*"Свабода". 2004. 17 кастр.*

### Стакгольм, Швецыя

У Стакгольме ад аўторка на выхадзе з амбасады Беларусі адбывалася апытанне грамадзянаў Беларусі, якія галасавалі ў амбасадзе. Некалькі чалавек наладзілі каля амбасады анты-рэферэндумны пікет, а на адным з будынкаў каля беларускага дыпламатычнага прадстаўніцтва быў наклеены вялізны плакат з надпісам "Не – рэферэндуму".

*"Свабода". 2004. 17 кастр.*

### Талін, Эстонія

17 кастрычніка ў Таліне адбыўся пікет каля Беларускага консульства. У ім ўзялі ўдзел маладыя палітыкі, сябры маладзёвых згуртаванняў розных эстонскіх партый. Сярод іх былі прыхільнікі рэфармістаў, цэнтрыстаў, сябры народнага саюзу, а таксама беларусы з Таліна і Кохтла-Ярве.

*supolka-bez.photofile.ru*

## Віншаванні!

* 24 кастрычніка святкуе 45-гадовы юбілей сябра Вялікай Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Алег Якшэвіч (Мінск, Беларусь).

* 25 кастрычніка спаўняецца 70 гадоў сябру Вялікай Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Яўгену Адамовічу (Мінск, Беларусь).

* 27 кастрычніка святкуе свой 70-гадовы юбілей сябра Вялікай Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Альберт Мітэр (Новасібірск, Расія).

**Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" віншуе з юбілеямі паплечнікаў, зычыць здароўя, поспехаў і плённае працы на ніве Беларускага Адраджэння.**

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## Раіса Жук-Грышкевіч

**Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" сардэчна віншуе дзяячку беларускага руху Канады Раісу Жук-Грышкевіч з 85-гадовым юбілеем!**

Раіса Жук-Грышкевіч вельмі шмат працавала ў імя беларускай ідэі. Яшчэ будучы студэнткай Таронцкага ўніверсітэту, яна актыўна ўдзельнічала ў беларускім эміграцыйным жыцці. У 1953 г., будучы студэнткай, узяла шлюб з В.Жук-Грышкевічам. Была сябрам і сакратаром Галоўнай управы Згуртавання беларусаў Канады, выконвала функцыі рэферэнта асветы, старшыні, доўгія гады была старшынёй Задзіночання беларускіх жанчын Канады, арганізатарам якога з'яўлялася. Выступала з чытаннем вершаў на розных урачыстасцях, з дакладамі пра славутых Еўфрасінню Полацкую, Рагнеду, Цётку, Ларысу Геніюш, наладжвала творчыя вечары Наталлі Арсенневай, паэтычны талент якой высока цаніла. З часу заснавання (1967 г.) у Канадзе Беларускага інстытута навукі і мастацтва (філія Нью-Ёркскага) стала яго сакратаром, была таксама сакратаром, а з 1989 г. старшынёй Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады (ККБК). У 1971 г., калі ўрад Канады абвясціў палітыку шматкультуралізму, як прадстаўнік беларускай этнічнай групы Раіса Жук-Грышкевіч была назначана Канадскім федэральным урадам сябрам Канадскай кансультатыўнай рады па справах шматкультуралізму. Яна належала да розных прафесійных канадскіх арганізацый. Шмат намаганняў яе як старшыні патрабавала правядзенне сустрэч беларусаў Паўночнай Амерыкі ў Таронта, праца сакратара канадскага сектара Рады БНР, сакратара-скарбніка Выдавецкага камітэта пры ККБК, адміністратара Фонду беларускіх падручнікаў. Разам з мужам несла асноўныя цяжкасці па будаўніцтве і ўзнясенні Беларускага памятнага крыжа і цяпер штогод наладжвае туды паломніцтва беларусаў. Арганізоўвала канферэнцыі прадстаўнікоў беларускага грамадства Канады і экспазіцыі-павільёны на канадскіх шматкультурных фестывалях у Бэры (тут знаходзіцца і дом Жук-Грышкевічаў) і ў Сімко-Каўнты Музеі. Як старшыня ККБК Раіса Жук-Грышкевіч уваходзіць у савет дырэктараў Канадскай этнакультурнай Рады, з'яўляецца сябрам савета дырэктараў Канадскага фонду дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі, арганізоўвае разам з іншымі беларускімі жанчынамі адпачынак дзяцей з чарнобыльскай зоны, якіх запрашаюць у Канаду.

Пра ўсе гэтыя справы, падзеі жыцця ў Канадзе Раіса Жук-Грышкевіч піша артыкулы, допісы ў беларускі друк, яна актыўна супрацоўнічае з газетай "Беларус", якая друкуецца ў Нью-Йорку. Ёю напісаны апавяданні: "Слова на дзень маткі", "У дзень бацькі – майму тату", "Калядніца", успаміны пра родную цётку, настаўніцу Кацярыну Стаўбунік. Аднак галоўным пісьменніцкім дасягненнем стала яе кніга "Жыццё Вінцэнта Жук-Грышкевіча", якая выйшла ў чэрвені 1993 года, якраз напярэдадні Першага з'езду беларусаў свету. Раіса Жук-Грышкевіч была дэлегатам з'езду, выступала з прамовай і была абрана сябрам Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". Трэба падкрэсліць неацэнную яе ролю не толькі ў стварэнні кнігі пра свайго мужа як грамадскага дзеяча, але і яе пісьменніцкія здольнасці і не меншы, чым у Вінцэнта, талент і ўменне арганізаваць беларускую справу, актыўна ўдзельнічаць ва ўсіх пачынаннях беларусаў. Яна здзейсніла тытанічную працу – сабрала, захавала столькі дакументаў, лістоў, фотаздымкаў, размеркавала іх па гадах, падзеях, зрабіла адпаведныя каментары.

Раісе Жук-Грышкевіч уласцівыя такія рысы як працавітасць, цярплівасць, самаадданасць, высокая нацыянальная свядомасць, духоўная напоўненасць.

*Лідзія Савік*

***

!!! У мінулым нумары бюлетэня "Беларусы ў свеце" была зроблена недарэчная памылка: сябра Вялікай Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" **Васіль Жуковіч** быў павіншаваны з 80-гадовым юбілеем замест 65-гадовага. Ад імя рэдакцыі просім прабачэння.

НАВІНЫ МГА «ЗБС «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

## Падрыхтоўка да IV З'езду беларусаў свету

12 кастрычніка 2004 г. адбылося пасяджэнне Управы МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", асноўнымі пытаннямі якога былі падрыхтоўка да чарговага Чацвёртага з'езду беларусаў свету і прыняцце заявы ў падтрымку тыднёвіка "Ніва".

На сярэдзіну лістапада плануецца пасяджэнне Малой Рады Згуртавання, на якой будзе абмеркавана дата правядзення Чацвёртага з'езду беларусаў свету, а таксама асноўныя пытанні, якія датычаць падрыхтоўкі і правядзення гэтага сусветнага форуму.

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## Навіны сайту МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

На сайце МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" (zbsb.org) сёння месцяцца кнігі, якія выдала Згуртаванне за часы сваёй дзейнасці. Але, плануецца, што бібліятэка будзе значна папаўняцца не толькі выданнямі "Бацькаўшчыны", але і кнігамі, якія выходзілі ў Беларусі і замежжы і прысвячаліся тэме беларускай дыяспары. Хутка на сайце з'явяцца матэрыялы канферэнцый "Культура і адукацыя беларускага замежжа" (1993 і 1998 гг.), "Беларусы ЗША" Вітаўта Кіпеля.

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## Анонс

* У 2004 г. МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" заснавала адмысловую серыю "Бібліятэка Бацькаўшчыны", прысвечаную жыццю і дзейнасці беларускай дыяспары. Першай кнігай у серыі стала "Месца выдання – Парыж" (выбраныя старонкі часопіса "Моладзь" 1948 – 1954 гг.). Зараз рыхтуецца да здачы ў друк другая кніга серыі – "Удзел беларусаў у бітве пад Монтэ-Касіна". Выхад кнігі з'яўляецца актуальным яшчэ і таму, што ў гэтым годзе спаўняецца 60 гадоў бітве. У кнізе будзе змешчана аповесць Пятра Сыча "Смерць і салаўі", а таксама навукова-папулярны матэрыял маладога даследчыка ўдзелу беларусаў у арміі генерала Андэрса Юрыя Грыбоўскага (Беларусь).

* Ідзе праца па падрыхтоўцы ў друк трэцяй кнігі серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" "Беларусы ў Аўстраліі". Аўтар – маладая даследчыца з Беларусі Наталля Гардзіенка. Кніга сталася вынікам паездкі Наталлі Гардзіенка ў Аўстралію па запрашэнні і пры дапамозе тамтэйшых беларусаў. Кніга пабудавана паводле навуковых даследаванняў аўтаркі, успамінаў беларусаў Аўстраліі.

* Распачынаецца праца па перавыданні яшчэ адной серыйнай кнігі "Мемуарыстыка на эміграцыі", якая была выдадзена Беларускім інстытутам навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку ў 1999 г. Аўтар – Лявон Юрэвіч (ЗША). Адрозніваць новае выданне будзе тое, што даследванне будзе абноўлена, а галоўнае – будзе дададзены матэрыял пра некралогі як жанр і бібліяграфіі, а ў дадатку – новыя ўспаміны.

* Яшчэ адным выданнем стануць матэрыялы міжнароднай канферэнцыі "Рэфармацыя і грамадства. 16 стагоддзе". Канферэнцыя адбылася ў мінулым годзе, у ёй узялі ўдзел разам з слыннымі беларускімі і польскімі навукоўцамі пераможцы конкурсу сярод студэнтаў і аспірантаў.

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## Франкфурт-на-Одэры, Германія

Своеасаблівая дабрачынная акцыя адбываецца ва ўніверсітэце "Віадрына" (Viadrina) горада Франкфурт-на-Одэры, а таксама ў іншых еўрапейскіх універсітэтах. Гэтыя ўніверсітэты прымаюць студэнтаў незалежнай вышэйшай навучальнай установы Беларусі, зачыненай сёлета. Пяць гадоў таму рэктар Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта ў Мінску (ЕГУ) Міхайлаў падпісаў з прэзідэнтам універсітэта "Віадрына" пагадненне аб супрацоўніцтве. Асобныя студэнты з Мінска ўжо прыязджалі па абмене ў Франкфурт-на-Одэры. У студзені ў ЕГУ быў адкрыты сумесна створаны факультэт міжнароднага мэнэджмента. Акрамя гэтага студэнты "Віадрыны" арганізавалі таварыства "Лагода" (Lahoda), якое займаецца абменам студэнтаў паміж Беларуссю і Германіяй. Некаторыя з нямецкіх студэнтаў, якія сустракаюць беларускіх "студэнтаў-уцекачоў", у пошуках прытулку ведаў самі да гэтага былі ў Беларусі.

*www.belarusy.com*

## ЗША

7-га снежня 2004 г. адбудзецца Сустрэча беларускай моладзі ў ЗША. У праграме сустрэчы эксклюзіўны канцэрт вядомага музыкі Лявона Вольскага (NRM, Krambambula): любімыя і новыя песні, задушэўныя размовы. Больш дакладную інфармацыю Вы можаце атрымаць, звярнуўшыся да арганізатараў на адрас: lobay@tut.by

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## Рыга, Латвія

15 кастрычніка ў Рызе – адкрыццё выставы мастакоў аб'яднання "Маю гонар", а 23 кастрычніка – вялікая вечарына, прысвечаная латышскім дайнам і беларускім народным песням, а таксама ў рамках вечарыны прэзентацыя кнігі С.Панізніка "Крывіцкія руны".

*Таццяна Казак*

## Латвія

З ліпеня бягучага года беларусы ў Латвіі маюць магчымасць чытаць тыднёвік "Ніва» не толькі ў Інтэрнэце. Распаўсюджваецца газета праз Латвійскае таварыства беларускай культуры "Сьвітанак", якое працуе ў Рызе на працягу апошніх 16 гадоў. "Сьвітанак" лічыць сябе пераемнікам і прадаўжальнікам традыцый беларускага таварыства "Бацькаўшчына", што існавала ў Латвіі ў 30-ыя гады мінулага стагоддзя. Тады ў Латвіі працавалі больш за 50 беларускіх школ, настаўніцкія курсы, тэатры, быў нават аддзел беларускіх школ у Міністэрстве адукацыі, існавалі беларускія друкаваныя выданні. Таварыствам "Сьвітанак" у канцы 1980-ых гадоў быў адноўлены выпуск газеты беларусаў Латвіі "Голас беларуса", што выдавалася ў 30-ыя гады, пачаў выходзіць таксама часопіс "Сьвітанак". Аднак з-за недахопу сродкаў адноўленая газета праіснавала некалькі гадоў, апошняя спроба аднавіць выхад "Голаса беларуса" адбылася ў 1996 годзе. Таму дасланая з Беластока "Ніва" выклікала цікавасць у "сьвітанкаўцаў" і наогул у беларусаў Латвіі. Добра, што цяпер ёсць магчымасць даведацца, як жывуць беларусы ў суседняй з намі краіне Еўрасаюзу, атрымаць навіны і аб Беларусі (напрыклад музычныя і спартыўныя). Дзеці беларускай школы ў Рызе, заснаванай таварыствам "Сьвітанак" у 1994 годзе, цяпер маюць магчымасць чытаць "Зорку".

У канцы жніўня "сьвітанкаўцы" бралі ўдзел у вечарыне дружбы, што ладзіў яўрэйскі культурны цэнтр "Алеф". Акрамя беларускіх песень і страваў сваёй нацыянальнай кухні беларусы прэзентавалі прысутным (а гэта прадстаўнікі больш як трыццаці нацыянальна-культурных грамадскіх арганізацый) беластоцкую "Ніву".

*"Ніва". 2004. 26 вер.*

## Вільня, Літва

6 кастрычніка 2004 года Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Літве Уладзімір Гаркун перадаў вучням і настаўнікам Віленскай сярэдняй школы імя Ф.Скарыны з беларускай мовай навучання звыш дзвюх тысяч экземпляраў вучэбных падручнікаў, дапаможнікаў, мастацкай літаратуры, якія выдадзены на беларускай мове Цэнтрам вучэбнай кнігі і сродкаў навучання Нацыянальнага інстытута адукацыі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.

*www.mfa.gov.by*

## Варшава, Польшча

На кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта адбылося арганізацыйнае пасяджэнне грамадскага камітэта пабудовы ў польскай сталіцы помніка народным пісьменнікам Беларусі Янку Купалу і Якубу Коласу.

У мерапрыемстве прыняў удзел Пасол Беларусі ў Польшчы П.Латушка і прадстаўнік дэпартамента міжнародных сувязей Міністэрства культуры Польшчы Іаланта Мітцэль.

Ініцыятыўная група па адкрыцці ў Варшаве помніка Янку Купалу і Якубу Коласу, у склад якой уваходзілі прафесар Варшаўскага ўніверсітэта Аляксандр Баршчэўскі, старшыня Варшаўскага аддзялення БГКТ Янка Заброцкі, перакладчык і публіцыст Чэслаў Сэнюх, дэпутат Сейма Яўген Чыквін, старшыня Галоўнага праўлення Таварыства "Польшча – Беларусь" Баляслаў Хмялінскі, праінфармавала ўдзельнікаў пасяджэння аб праведзенай да гэтага часу рабоце па рэалізацыі ідэі і прадставіла абгрунтаванне яе мэтазгоднасці.

Старшынёй Грамадскага камітэту выбраны дырэктар Літаратурнага музея Адама Міцкевіча ў Варшаве прафесар Януш Адрованж-Пянёнжэк.

*www.mfa.gov.by*

***

Беларуская амбасада ў Варшаве выказала зацікаўленасць у паўстанні помніка і нават абяцала ўсялякую дапамогу, каб паскорыць яго пабудову. Пакуль невядома, на чые сродкі і ў якім месцы Варшавы будзе ўсталяваны помнік Янку Купалу і Якубу Коласу. Па словах Чэслава Сэнюха, няблага было б яго паставіць у адным са сквераў Варшаўскага ўніверсітэта, а яшчэ лепш у колішнім Агродзе Уяздоўскім, дзе заўсёды шматлюдна і можна праводзіць музычна-паэтычныя імпрэзы.

*pahonia.promedia.by*

## Гайнаўка, Польшча

25 верасня ў Музеі і Асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы была адчыненая выстава фотаздымкаў "Шляхамі Якуба Коласа і Янкі Купалы". Выстава раней гасціла ў Гданьску. Зараз з харавством мясцовасці, дзе нарадзіліся, жылі і працавалі вядомыя беларускія пісьменнікі, могуць пазнаёміцца жыхары Беласточчыны. Наведвальнікі выставы могуць пабачыць каля 40 мастацкіх фотаздымкаў.

*www.bialorus.pl*

## Беласток, Польшча

Абраны новы старшыня Таварыства Беларускіх Журналістаў у Польшчы, ім стаў галоўны рэдактар беластоцкага месячніка "CZASOPIS" Юрка Хмялеўскі.

Таварыства Беларускіх Журналістаў у Польшчы існуе з 1992 года, і ягоныя сябры – гэта супрацоўнікі пераважна беластоцкіх медыяў, якія непасрэдна спецыялізуюцца на беларускай тэматыцы. Папярэднім старшынём Таварыства быў Славамір Іванюк. Абранне Юркі Хмялеўскага абумоўлена ягоным багатым досведам працы і арганізацыйнымі здольнасцямі.

Таварыства Беларускіх Журналістаў у Польшчы акрамя таго, што з'яўляецца выдаўцом месячніка "Czasopis", рэалізуе шэраг Інтэрнэт-праектаў, выдае сумесна з Villa Socrates асобныя літаратурна-мастацкія і публіцыстычныя кнігі, імкнецца абараняць правы журналістаў на творчую самарэалізацыю і свабоду слова.

"У Таварыства яшчэ шмат працы наперадзе, і не толькі ў Польшчы. Мы таксама занепакоены сітуацыяй са свабодай слова ў самой Беларусі, таму будзем надалей праяўляць салідарнасць з нашымі калегамі па другі бок мяжы", – заявіў пасля абрання на новую пасаду Юрка Хмялеўскі.

*pahonia.promedia.by*

## Польшча

З 16 па 30 кастрычніка беларускі гурт "NRM" дасць шэраг канцэртаў у польскіх гарадах Беласток, Вроцлаў, Кракаў, Лодзь, Варшава, Познань, Шчэцін, Хойна.

*"Народная воля". 2004. 6 кастр.*

## Польшча

Дэпутат Еўрапарламента Богдан Кліх звярнуўся да камісара Еўразвязу па справах замежнай палітыкі Крыса Патэна, з прапановай сфінансаваць з'яўленне на тэрыторыі Польшчы незалежнага беларускага радыё, якое будзе трансліраваць праграмы на тэрыторыю Беларусі.

Ён прапануе, каб Еўрапейская камісія разглядзела магчымасць стварэння і фінансавання дзейнасці незалежнай радыёстанцыі, якая трансліравала б на беларускай мове праграмы на тэрыторыю Беларусі.

Да гэтай пары Еўразвяз не ангажаваўся ў такія праекты, хаця і выдзяляе датацыі на еўрапейскае тэлебачанне Euronews, якую праз сатэлітарныя антэны можна прымаць у Расіі, Украіне і Беларусі.

*"Rzeczpospolita". 2004. 15 кастр.*

## Бельск, Польшча

Склалася так, што найбольш прадстаўнічы фэст беларускай аўтарскай песні "Бардаўская восень" адбываецца не ў вялікіх гарадах Беларусі, а на Беласточчыне, у Бельску. Пры канцы кастрычніка там адбудзецца чарговы, 11-ы па ліку, фестываль. На адборачным канцэрце ў Доме літаратара ў Мінску былі абраныя тыя, хто будзе на тым фестывалі выступаць. Інфармацыйную падтрымку ажыццявілі "Polskie Radio Białystok", "Gazeta Wyborcza", штомесячнік "Czasopis", сайт www.slonko.com.pl. Спонсарамі выступілі гатэль "Unibus" у Бельску-Падляшскім, "Semafic - Skaner 2". Фестываль адбываецца пад патранатам Міністэрства культуры Польшчы, Мэрыі горада Бельск-Падляшскі і Спавятовага старараства ў Бельску-Падляшскім. Арганізацыйныя праблемы вырашае Звяз беларускай моладзі ў Польшчы. Уваход на канцэрты – вольны.

*Паводле "Нашай нівы" і www.slonko.com.pl.*

## Гайнаўка, Польшча

Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы (Беласточчына) аб'яўляе фатаграфічны конкурс "Падляшша ў фотааб'ектыве" ў трох катэгорыях: чалавек традыцыйнай прафесіі, даўняя царкоўная архітэктура і будзённы дзень у вёсках калісь шматлюдных і шумных, сёння амаль забытых. Удзельнікі конкурсу павінны прыслаць тры фатаграфіі фармату 15 х 21 см. Высылаць здымкі з аднае катэгорыі або па адным з кожнай з трох катэгорый (http://niva.iig.pl). Тэрмін да 17 снежня 2004 года.

*"Ніва". 2004. 3 кастр.*

## Іркуцк, Расія

Іркуцкае Таварыства Беларускай Культуры імя Яна Чэрскага (ІТБК) і ў летнія месяцы актыўна працавала на карысць адраджэння беларускай традыцыі. У канцы мая ІТБК ладзіла тыдні беларускай культуры, у канцы чэрвеня праводзілася беларускае народнае свята "Купалле", у якім узялі ўдзел каля 200 чалавек. У жніўні пры спонсарскай падтрымцы Генадзя Гацукова была здзейснена этнаграфічная экспедыцыя на поўнач Усць-Ардынскай акругі ў беларускія вёскі: Тургенеўка, Васільеўка, Таўстоўка, Лідзінск, Шаманка і Ахіны. Было сабрана мноства матэрыялаў аб гісторыі ўтварэння беларускіх вёсак, уладкавання беларусаў у сібірскім краю, песні і абрады, якія памятаюць і шануюць нашчадкі беларусаў, побытавыя рэчы беларусаў, якія захаваліся з часоў утварэння вёскі і з'яўляюцца ўнікальнымі з пункту гледжання гісторыі.

Старшыня Іркуцкага гарадскога аддзялення ІТБК ажыццявіла афіцыйную паездку ў Мінск, дзе яна сустракалася з прадстаўнікамі дзяржаўных устаноў (Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі, Камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцяў) і грамадскімі арганізацыямі, такімі як Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", Таварыства беларускай мовы і інш. Некаторыя дамовы выклікаюць аптымізм па далейшым узаемадзеянні ІТБК з метраполіяй.

*Мамантава Алена, прэс-сакратар РАА "ІТБК імя Я.Чэрскага"*

## Іркуцк, Расія

17 кастрычніка ў Іркуцку намаганнямі Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага быў створаны дзіцячы клуб "Зярнятка", сябры якога будуць мець магчымасць вывучаць родную мову, знаёміцца з гісторыяй Беларусі. Для іх таксама будуць арганізаваны гурткі па рамёствах – саломапляценні і вышыванні. А для дарослых плануецца стварэнне лекторыя.

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## Масква, Расія

11 кастрычніка ў Маскве адбылося пасяджэнне экспертнага савета па скульптуры, манументальным і дэкаратыўным мастацтве пры Камітэце па культуры Масквы. На парадку дня: разгляд рабочай мадэлі помніка Янку Купалу, прапанаваны Рэспублікай Беларусь у падарунак гораду Маскве (аўтары – скульптары народны мастак Беларусі Леў і Сяргей Гумілеўскія). Месца ўсталявання помніка – сквер па Кутузаўскім праспекце.

Рабочая мадэль разглядалася з улікам заўваг і рэкамендацый Савета, выказаных на выязным пасяджэнні ў Мінску 6 ліпеня 2004 года. Савет адзначыў, што аўтарамі зроблена значная праца па развіцці вобразна-пластычнага рашэння скульптурнай кампазіцыі і пошуку архітэктурнага элемента кампазіцыі замест раней прапанаванага каменя-валуна.

Рабочую мадэль помніка Савет прыняў і, з улікам выпраўленых заўваг, рэкамендаваў аўтарам у двухтыднёвы тэрмін прадставіць фотаздымкі дапрацаванай рабочай мадэлі. Пасля чаго распачаць выкананне гэтай мадэлі ў лёгкім матэрыяле ў прапорцыях збудавання.

*"Культура". 2004. 16-22 кастр.*

## Калінінград, Расія

28 верасня ў Калінінградзе (Расія) устаноўлены помнік славутаму беларускаму асветніку Францішку Скарыну. Яго ўрачыстае адкрыццё запланавана на канец кастрычніка. Як паведаміў кіраўнік калінінградскага аддзялення пасольства Беларусі ў Расіі Уладзімір Заламай, аўтарам манумента, адлітага ў Беларусі, стаў вядомы беларускі скульптар Анатоль Арцімовіч. Ініцыятарам устанаўлення помніка выступіла Калінінградскае зямляцтва беларусаў.

*"Народная воля". 2004. 1 кастр.*

## Прага, Чэхія

Выстава Алеся Пушкіна адбылася ў пражскай галерэі "Artmap". У чэскай сталіцы Пушкін жыў цэлы месяц і намаляваў некалькі палотнаў – "Святы Мікулаш над Прагай", "Францішак Скарына ў Празе". На выставе паказалі фільмы пра мястэчка Бобр, дзе жыве мастак, і пра яго перфоманс "Беларуская прысутнасць" на Карлавым мосце. Запрошаныя прадстаўнікі беларускага пасольства ў Празе на выставу не прыйшлі.

*"Наша ніва". 2004. 1 кастр.*

## Кастрычнік у нашай гісторыі

* 985 гадоў таму, у 1019 г. – першая згадка ў летапісах пра Брэст.

* 690 гадоў таму, у 1314 г. князь Давыд Гарадзенскі разбіў вялікі паход крыжакоў на Наваградак.

* 605 гадоў таму, у 1399 г. – паражэнне ад татараў арміі ВКЛ на чале з князем Вітаўтам на рацэ Ворксле.

* 485 гадоў таму, у 1519 г. беларускі паэт Мікола Гусоўскі пачаў складаць славутую паэму "Песню пра зубра".

* 120 гадоў таму, у 1884 г. у Менску нарадзіўся Флярыян Жданові́ч, беларускі акцёр і рэжысёр, арганізаваў беларускія спектаклі і Першае беларускае таварыства драмы і камедыі.

* 105 гадоў з дня нараджэння А.Бабарэкі (1899-1938), беларускага пісьменніка, крытыка.

* 90 гадоў з дня нараджэння Казіміра Свёнтака, кардынала, мітрапаліта Мінскай і Магілёўскай мітраполіі рымска-каталіцкай царквы на Беларусі.

* 65 гадоў таму, у кастрычніку 1939 г. Літве былі перададзены Вільня і часткі былога Віленскага ваяводства БССР на аснове дагавору паміж СССР і Літвой.

* У кастрычніку 1989 г. адбыўся вялікі мітынг у Курапатах у памяць загінуўшых там ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў. Мітынг жорстка разагнаны савецкай міліцыяй.

*Паводле kamunikat.net.iig.pl*

# Рэзалюцыя 26-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі

*Удзельнікі 26-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі канстатуюць:*

- Распад камуністычнай імпэрыі ў канцы 80-х гадоў 20 ст. выразна паказаў ступень гістарычнага і маральнага занядбаньня беларускай нацыі і пераемнасьць гэтага працэсу ў дачыненьні да Беларусі з часоў падзелу Рэчы Паспалітай і гвалтоўнага далучэньня нашых земляў да Расеі. Нягледзячы на вонкавыя прыкметы незалежнасьці, Беларусь усё больш страчвала нацыянальную культуру, мову і гістарычную арыентацыю і ператваралася ў невыразнае ўтварэньне ў рамках СССР, а яе нацыя і культура рабіліся палігонам для стварэньня так званай "адзінай (савецкай) нацыі".

- Разам з тым у нетрах савецкай сыстэмы высьпела і засьведчыла сябе ў мастацкай творчасьці, навуцы ды культуры паўнавартасная беларуская нацыянальная інтэлігенцыя, якая змагла супрацьпаставіць афіцыйнай дэнацыяналізацыі ды русіфікацыі выразна выказаную яшчэ ў час утварэньня БНР нацыянальную ідэю. Дзякуючы гэтаму ў час распаду СССР у канцы 20 ст. Беларусь змагла выкарыстаць свой гістарычны шанец – у 1991 г. была афіцыйна абвешчана яе незалежнасьць. Мы лічым, што існаваньне незалежнай Беларусі працуе на ейную будучыню.

- З прыходам да ўлады сёньняшняга прэзыдэнта беларуская культура зноў падпала пад уціск. Яе зноў спрабуюць пазбавіць гістарычнай і нацыянальнай арыентацыі, ператварыць у падмурак сучаснай ідэалёгіі, якая стаіць на постсавецкіх прынцыпах і вызнае будаўніцтва так званай "адзінай дзяржавы". Такая палітыка вядзе да новага супрацьпастаўленьня ў грамадзтве, які спрабуюць супыніць недастойнымі мэтадамі.

*Удзельнікі 26-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі пастанаўляюць:*

- Мы заяўляем рашучы пратэст супраць уціску і новай спробы саветызацыі нацыянальнай культуры, перасьледу яе дзеячоў, супраць зьмяншэньня сфэры ейнага ўплыву ў грамадзтве. Мы зьвяртаемся да ўраду Рэспублікі Беларусь, які адказвае за сёньняшні стан беларускага грамадзтва, з патрабаваньнем спыніць русіфікацыю краіны і перайсьці да вырашэньня надзённых задачаў, якія ставяць сёньня перад нашай нацыяй час і гістарычныя абставіны.

- Мы прапануем прыняць дзяржаўную праграму па гістарычнай адукацыі нашага народу, які на працягу доўгіх стагодзьдзяў знаходзіўся пад уплывам чужой і варожай яму ідэалёгіі.

- Неабходна як мага хутчэй спыніць закрыцьцё беларускіх школ і пачаць аднаўленьне беларусізацыі ўва ўсіх галінах культуры і іншых жыцьцёва неабходных сфэрах духоўнага жыцьця Беларусі.

- Вярнуць у школьныя праграмы выкінутыя за апошнія гады мастацкія творы, у тым ліку творы пісьменьнікаў-эмігрантаў, павялічыць колькасьць гадзін выкладаньня беларускай літаратуры, а таксама аднавіць школьныя экзамэны па ёй.

- Скасаваць палітычную цэнзуру на радыё і тэлебачаньні, даць магчымасьць адкрыта выказвацца як палітыкам, так і нацыянальным творцам, незалежна ад іх палітычных поглядаў.

- Мы лічым, што асновай захаваньня самасьвядомасьці беларусаў у замежжы ёсьць іх яднаньне на глебе павагі і любові да роднай зямлі, мовы, культуры, гісторыі і падтрыманьне ідэяў свабоднай, дэмакратычнай і незалежнай Беларусі.

- Заклікаем усіх нашых суайчыньнікаў ствараць беларускія суполкі для захаваньня культурных, моўных і гістарычных каштоўнасьцяў у беларускай дыяспары. Кожны беларус, дзе б ён ні знаходзіўся, адказны за лёс Беларусі. Мы, беларусы Паўночнай Амэрыкі, разумеем, што такая адказнасьць ляжыць на кожным і пачынаецца перш-наперш дома. Мы павінны заахвоціць нашых дзяцей размаўляць па беларуску, рабіць даклады пра нашу бацькаўшчыну ў школах і грамадзкіх цэнтрах.

- Мацаваць сьвядомасьць беларусаў замежжа праз стварэньне мастацкіх гурткоў, беларускіх суботніх клясаў для дзяцей і дарослых, праз пэрыядычныя выданьні (газэты "Беларус", "Беларускае слова", "Belarusian review"), інтэрнэт-старонкі (www.belaruscanada.com), цікавыя сайты для моладзі, інтэрнэт-кафэ, клубы знаёмстваў у інтэрнэце на беларускай мове, фэстывалі, сьвяты, сустрэчы, асабліва ж урачыста адзначаць 25 сакавіка — Дзень Незалежнасьці, Слуцкі Збройны Чын, Купальле.

- Усталяваць больш шчыльныя кантакты з Згуртаваньнем беларусаў сьвету "Бацькаўшчына", зь беларускімі суполкамі ў краінах і рэгіёнах.

- Для фінансаваньня беларускіх праектаў праводзіць тлумачальную работу сярод эмігрантаў, амэрыканцаў і канадыйцаў з мэтай збору сродкаў на грамадзкую дзейнасьць.

*Канада, Таронта,*
*5 верасьня 2004 году*

# Сучасная беларуская дзяржаўнасьць замацоўваецца ці слабее?

***З дакладу Янкі Запрудніка на 26-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі***

Яшчэ ў 1991 г. Васіль Быкаў сказаў: "Самае галоўнае, самае кардынальнае пытаньне, якое цяпер стаіць перад беларусамі – гэта пытаньне дзяржаўнасьці". Пытаньне гэтае стаіць перад намі й сёньня і гучыць яно трывожна: быць беларускай дзяржаўнасьці ці не? Выжывем мы ці ня выжывем як сувэрэнная й поўнакроўная нацыя? Хоць сёньня ў сьвеце йдуць працэсы глябалізацыі, фармаваньня розных міжнародных зьвязаў, усё ж нацыянальная дзяржава застаецца аптымальнай формай забясьпечаньня дабрабыту свайму народу і асноўнай цаглінай у будаваньні міжнародных структураў.

На Беларусі тым часам няспынна адбываюцца дзяржаватворчыя працэсы: віруе палітычнае жыцьцё, горача дэбатуецца пытаньне культурнага зьместу Рэспублікі. Расьце маладое пакаленьне, пагляды якога крышталізуюцца ў абставінах існаваньня фармальна незалежнай дзяржавы.

Паўтара году таму назад прэзыдэнт Лукашэнка ўзяўся ўкарэньваць у сьведамасьці грамадзянаў г. зв. "ідэялёгію беларускай дзяржавы". З гэтай мэтай пры Адміністрацыі прэзыдэнта была створаная ідэялягічная ўправа, па цэлай рэспубліцы – ад Акадэміі Навук праз усе школы і аж да мясцовых саветаў – працуе ідэялягічная вэртыкаль, выдаюцца падручнікі, чытаюцца курсы. Іншая рэч, што для ўсёй арміі вэртыкальшчыкаў ня зусім ясна, што гэта за штука, тая "ідэялёгія". Але, прыгледзеўшыся бліжэй, становіцца ясна, што "ідэялёгія беларускай дзяржавы" прызначаная на прытупляньне, прыглушваньне нацыянальнай сьведамасьці беларусаў, рост якое стымулюецца фактам існаваньня Беларускай Дзяржавы.

Тым часам як культурны зьмест дзяржаўнасьці, тая "нацыянальная самабытнасьць беларускага народу" падсякаецца ў корань, палітычны аспэкт дзяржаўнасьці замацоўваецца новай хваляй фразэалёгіі. Паказальнай у гэтым сэнсе сталася Лукашэнкава прамова перад пасламі РБ, якіх ён склікаў у ліпені сёлета. "Хачу сёньня сказаць наўпрост і ўпэўнена, — заявіў Лукашэнка. — Беларусь ёсьць і будзе заставацца самастойнай у Эўропе і ў сьвеце. Сувэрэнітэт і незалежнасьць для нас не разьменная карта, а сьвятая, сталая каштоўнасьць. Яна належыць не Прэзыдэнту і ня Ўраду. Яна належыць народу і дзяржаве. І мы павінны быць годныя гэтай каштоўнасьці". Лукашэнка раптам пачаў гучэць, як беларускі нацыяналіст. "Выбар, які нам звычайна спрабуюць навязаць як лёсавызначальны – Усход ці Захад? – гэта наагул ня выбар. Ня выбар для Беларусі! Гэта фальшывая дылема. Мы выбіраем ня Ўсход і Захад або Ўсход ці Захад – мы выбіраем Беларусь".

Гэтую аптымістычную ацэнку трэба ўспрыймаць, аднак, ведаючы, што ў Беларусі сёньня пануе дыктатура аднаго чалавека. У разуменьні ідэйна-псыхалягічных працэсаў у грамадзтве, якое жыве пад дыктатарскім рэжымам, пад узьдзеяньнем інтэнсыўнай нутраной прапаганды, трэба ўлічваць, што афіцыйная фразэалёгія робіць вялікі ўплыў на сьветагляд людзей, асабліва моладзі. Дык і ў сёньняй Беларусі афіцыйная прапаганда не застаецца бяз вынікаў. Але ў многіх яна не заглушае здаровага розуму, бо сучасныя беларусы жывуць ужо ў кантакце з вонкавым сьветам і бачаць, як рэалізуецца ў нармальных умовах нацыянальная ідэя, як у цывілізаваных народаў спалучаныя ў адно цэлае палітычная форма і культурны зьмест нацыянальнай дзяржаўнасьці.

Паводле розных крыніцаў, сярод ма-

➲

ладых беларусаў расьце, хоць і памалу, лік асобаў, якія прагнуць быць пасьлядоўнымі ў сваім сьветаглядзе, у сваіх маральных вартасьцях. У сучасным сьвеце, у якім дзяржаўнасьць сталася паказьнікам найвышэйшай ступені разьвіцьця грамадзтва, факт існаваньня фармальна незалежнай РБ спараджае й стымулюе незалежніцкую псыхалёгію, выклікае жаданьне быць роўнымі зь іншымі дзяржаўнымі народамі, прыводзіць грамадзянаў да дзеяньняў на карысьць свае дзяржавы. Нават некаторыя расейскамоўныя дзеячы палітыкі й культуры выказваюцца за захаваньне незалежнасьці Беларусі.

Дык які адказ на спачатнае пытаньне: беларуская дзяржаўнасьць — замацоўваецца яна ці слабее? Адказ такі: замацоўваецца інстытуцыйна; факт існаваньня дзяржавы заглыбляецца ў сьведамасьці палітычнай эліты й маладога пакаленьня, умацоўваецца ў міжнароднай сфэры. І разам з тым дзяржаўнасьць слабее сваім нацыянальна-культурным зьместам, у тым ліку беларускай мовай.

Разам з пытаньнем "Выжыве ці ня выжыве беларуская дзяржава?" трэба адказаць і на пытаньне: "Што мы ў замежжы можам зрабіць, каб яна выжыла ды замацавалася сваім нацыянальным зьместам?"

Назавем тут наступныя заданьні: падтрымваць усімі сродкамі дзейнасьць Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ды цікавіцца бесьперапынна падзеямі на Бацькаўшчыне; трымаць актыўнае сяброўства і спрыяць далучэньню новых сяброў да такіх нашых арганізацыяў, як Згуртаваньне Беларусаў Канады, Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва; падпісвацца й даваць ахвяраваньні на нашыя друкаваныя органы: газэты "Беларускае Слова", "Беларус", "Беларускі Дайджэст", часапісы "Запісы БІНіМ" і "Belarusian Review"; падтрымваць матар'яльна беларускія выданьні й беларускамоўнае школьніцтва на Беларусі; запрашаць у нашыя грамадзкія асяродкі суродзічаў, што цяпер прыбываюць зь Беларусі сюды на пасяленьне; трымаць лучнасьць з палітычнымі партыямі Канады й Злучаных Штатаў, з заканадаўцамі і ўрадаўцамі месцаў нашага пасяленьня.

КНІЖНАЯ ПАЛІЧКА

## Кніга пра армію Андэрса

У Вялікабрытаніі выйшаў раман Клары Фрэнсіс «Бацькаўшчына» («Homeland») пра лёс дэмабілізаваных жаўнераў польскай арміі Андэрса пасля Другой сусветнай вайны. Дзея адбываецца ўзімку 1946 г. Перайсці да цывільнага жыцця вайскоўцам замінаюць не толькі праблемы з асіміляцыяй у чужой краіне, але і непрыязнасць да іх з боку ангельцаў, пра якую, як кажа Клара Фрэнсіс, ужо мала хто памятае. Як вядома, у арміі Андэрса было шмат беларусаў.

*"Наша ніва". 2004. 24 вер.*

## Гістарычная фаналогія беларускае мовы

Выйшла фундаментальная праца амерыканска-ізраільскага лінгвіста Пола Векслера «Гістарычная фаналёгія беларускай мовы» ў беларускім перакладзе. Арыгінальны варыянт з'явіўся яшчэ ў 1977 г. у выдавецтве Гайдэльбергскага ўніверсітэту. Векслерава манаграфія — пакуль адзінае грунтоўнае даследаванне, прысвечанае гістарычнаму развіццю гукаў беларускае мовы. Пераклад ажыццявілі Алеся Літвіноўская і Мікола Раманоўскі, навуковым рэдактарам перакладу выступіў праф. Генадзь Цыхун.

*"Наша ніва". 2004. 24 вер.*

## "Пралескі"

Іркуцкае Таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага выдала зборнік паэзіі беларускай паэткі з Іркуцка Кацярыны Лапо-Агаркавай. Зборнік атрымаў назву "Пралескі". Лейтматывам кнігі пастаўлены вядомыя словы Адама Міцкевіча пра беларускую мову: "Беларуская мова – гэта адна з найбольш старажытных і добра распрацаваных славянскіх моваў!"

У слове да чытача паэтка піша: "Усё маё дзяцінства прайшло ў Беларусі, у горадзе Орша на беразе Дняпра. Адтуль жа на ўсё жыццё ўзяла дабрыню людзей, шчырае сяброўства і цудоўную прыгажосць Радзімы! З 1996 года жыву ў Іркуцку. Вялікі дзякуй «Беларускаму Таварыству» і яго гаспадару Алегу Рудакову, бо пасля сустрэчы з імі пачала пісаць вершы на роднай мове. Нізкі паклон вам, шаноўныя сябры!"

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## "Рэчыцкае Палессе"

У верасні месяцы пабачыла свет чарговая кніга праекту "Беларускі кнігазбор" – "Рэчыцкае Палессе" Часлава Пяткевіча. Гэтая кніга своеасаблівая этнаграфічная энцыклапедыя Усходняга Палесся. Апошні раз праца друкавалася ў 1938 годзе ў Варшаве на польскай мове (мова арыгінала). Праца ўпершыню перакладзена на беларускую мову Уладзімірам Васілевічам і Ліяй Салавей. Кніга добра аздоблена – больш за 200 малюнкаў. У ёй распавядаецца, як палешукі будавалі жыллё, што і як вырошчвалі, як лекаваліся, як адпачывалі і рабілі музычныя інструменты, іхнія прыказкі, прымаўкі, праклёны і тосты.

*Інфармацыйны цэнтр "МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

З НАШАЙ ПОШТЫ

**Паважанае спадарства**, мая маці, Валянціна Герасімаўна Казлоўская, у 20-я гады мінулага стагоддзя жыла ў Латвіі і вучылася ў беларускай сярэдняй школе ў Люцыне (Лудзі) і Дзвінску (Даўгаўпілс). Там яна пад уплывам Кастуся Езавітава ўключылася ў беларускі нацыянальны рух і ўваходзіла ў арганізацыі "Гайда", "Беларуская хата". Пісала вершы, некаторыя былі надрукаваны ў зборніку "Першы крок", выдадзены ў Рызе ў 1926 г. У 1927 г., скончыўшы педагагічныя курсы ў Рызе, пры садзейнічанні Езавітава і Янкі Купалы, пераехала ў Мінск, каб там атрымаць вышэйшую адукацыю. Яна скончыла Мінскі медыцынскі інстытут у 1931 г., калі ўжо была замужам за аднакурснікам Маісеем Шапірам. Яе жыццё ў БССР у 1931-1937 гг. вызначалася месцам службы мужа, ваеннага лекара. У снежні 1937 г. В.Казлоўская была арыштаваная, абвінавачаная ў шпіянажы на карысць латвійскай разведкі і расстраляная 31 сакавіка 1938 г.

Зараз я займаюся гісторыяй яе жыцця, і быў бы рады любому кантакту, які дазволіць удакладніць некаторыя незразумеласці ў яе біяграфіі. З Казлоўскай у 1927 г. у БССР прыехалі яе аднакурснікі з педагагічных курсаў Ян Доўгі і Аляксандр Вайноўскі. Скончыўшы ўніверсітэт у Мінску, Доўгі працаваў у АН БССР, выкладаў у Камвузе, а Вайноўскі працаваў у дрэваапрацоўчай прамысловасці ў Бабруйску. НКВД праз катаванні выцягнулі з яе прызнанне, што яе паплечнікі Доўгі і Вайноўскі. Аднак, мяркуючы па рэабілітацыйных матэрыялах (я пазнаёміўся з імі ў 2001 г.), яны абодва не прыцягваліся да судовай адказнасці. Ці можна высветліць, што з імі здарылася далей?

Я буду вельмі ўдзячны, калі хто-кольвечы дапаможа знайсці адказы на гэтыя пытанні. Са свайго боку я гатовы падзяліцца з вамі тымі матэрыяламі, якімі валодаю.

Марк Шапіра, 173015, Расія, Вялікі Ноўгарад, вул. Новалучанская, д. 33, кор. 2, кв 6.

*Марк Шапіра*

Бюлетэнь Інфармацыйнага цэнтра МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі. Падбор матэрыялаў і вёрстка – Зміцер Сасноўскі. Адказная за выпуск – Алена Макоўская.

Адрас рэдакцыі: вул. Рэвалюцыйная, 15, г. Мінск 220030, Рэспубліка Беларусь zbsb@lingvo.minsk.by; www.zbsb.org тэл. (+375 17) 289-31-94

Наклад 200 асобнікаў